О мужественном Борисе Клейне из Гродно читайте на 3-й странице.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 87 (4339)**

2 лістапада 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЛІЧБА ДНЯ

## 10 мільярдаў 885 мільёнаў рублёў

*Такой за верасень была запазычанасць фізічных асоб перад банкамі па крэдытах. Пра гэта сведчыць статыстыка Нацбанка. Для параўнання: год таму гэты паказчык складаў 8 мільярдаў 269 мільёнаў рублёў.*


Ілюстрацыйнае фота. TUT.BY

ФЕСТЫВАЛЬ




## Юбілейны «Лістапад»

Сёння адкрываецца Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад". Юбілейны – 25-ы. Варта ўзгадаць, як усё пачыналася. Гэта была прыватная ініцыятыва: рэжысёр і прадзюсар Сяргей Арцімовіч самастойна знайшоў спонсара і 20 тысяч долараў і арганізаваў першае свята кіно. Параўнаем: сёння фестываль каштуе больш за паўмільёна долараў, большую частку гэтай сумы дае дзяржава.

У гэтым годзе "Лістапад" пройдзе пад лозунгам "Пазнаючы белы свет". Так называецца адзін з фільмаў Кіры Муратавай.

– Мы з вялікім трапятаннем ставімся да Кіры Георгіеўны, – сказаў праграмны дырэктар фестывалю Ігар Сукманаў. – У той жа час мы жадаем запрасіць "пазнаць белы свет" у прамым сэнсе, таму што кіно – гэта не проста захапляльны аповед. Акунаючыся ў зусім розныя кантэксты, мы даведваемся пра свет, а разам з тым пазнаём і саміх сябе.

У праграме юбілейнага "Лістапада" каля 100 фільмаў, не лічачы пазаконкурсных рэтраспектыў – расійскай, нямецкай і славацкай. Фільмам адкрыцця юбілейнага "Лістапада" стане меладрама Паўла Паўлікоўскага "Халодная вайна", якая атрымала ў гэтым годзе прызнанне на конкурсе ў Канах.

Ганаровымі гасцямі фестывалю ў гэтым годзе стануць Святлана Немаляева і Рустам Сагдулаеў.

**Алена ЛУБНЕЎСКАЯ.**

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

## Вольфганга Ишингера впечатлила белорусская позиция

Позавчера и вчера в Минске проходили заседания Основной группы Мюнхенской конференции по безопасности (МКБ). Это влиятельная международная дискуссионная площадка, на которой эксперты и политики европейских государств обсуждают пути достижения и укрепления мира на континенте.

О степени влиятельности и важности Мюнхенской конференции говорит не только факт участия в работе нынешнего заседания президентов Беларуси и Армении, премьер-министров Сербии и Молдовы, министров иностранных дел Македонии, Монголии, Польши, Словакии, еврокомиссара по вопросам добрососедства и расширения переговоров, Генерального секретаря ОБСЕ, представителей других крупных международных организаций, в том числе НАТО. 10 февраля 2007 года именно с трибуны МКБ президент России Владимир Путин озвучил известные тезисы, воспринятые Западом как начало курса Кремля на конфронтацию с евроатлантическим сообществом.

Выступая позавчера на открытии форума, президент Беларуси внес ряд предложений о том, как, с его точки зрения, можно было бы достичь разрешения наиболее «горячего» конфликта в сегодняшней Европе – конфликта в Донбассе. На этот раз Александр Лукашенко не ограничился общими заявлениями; в частности, БЕЛТА цитирует главу белорусского государства:

– Мы можем взять на себя ответственность за обеспечение мира в восточных регионах Украины и контроль на российско-украинской границе, а также сопровождать проведение выборов на Донбассе, исходя из понимания того, что эти регионы являются неотъемлемой частью Украины.

При этом Александр Лукашенко подчеркнул, что решить проблему невозможно до тех пор, пока в процесс переговоров «минской группы» кроме Украины, Германии, России и Франции не будут вовлечены Соединенные Штаты Америки.

Реакция руководства форума на высказывания президента Беларуси была положительной. Председатель МКБ Вольфганг Ишингер, чьи слова также приводит БЕЛТА, заявил:

– Меня глубоко впечатлила та приверженность и стремление к разрешению конфликта, которую высказал президент Александр Лукашенко во время прошедшей вчера встречи. Меня впечатлило то отношение и стремление как можно скорее разрешить ситуацию на востоке Украины, достичь там мира. Надеюсь, что к интересным предложениям, которые он выдвинул, включая миссию на востоке Украины, прислушаются. Что меня особенно поразило – это предложение и готовность Беларуси предоставить свои ресурсы для участия в этой миссии на востоке Украины.

Реакция как России, так и Украины по данному поводу пока не известна. До сих пор официальный Киев достаточно жестко отказывался от миротворческих «услуг» Беларуси.

Вольфганг Ишингер также пригласил Александра Лукашенко принять участие уже непосредственно в следующем заседании МКБ.

Трудно судить, насколько востребованными будут предложения президента Беларуси на практике. Однако несомненно: в любом случае проведение столь авторитетного мероприятия в Минске будет содействовать укреплению позиций Беларуси на международной арене, а Лукашенко и министр иностранных дел Владимир Макей могут записать дополнительные баллы на свой внешнеполитический счет.

**Федор КОНСТАНТИНОВ.**



**Анатоль ЗЭКАЎ**

## На Дзяды

*Згадаем продкаў на Дзяды –*
*пайменна ўсіх паўспамінаем.*
*Мы ж толькі і жывём тады,*
*калі пра іх не забываем.*

*У нашых светлых успамінах*
*яны жывыя і сягоння…*
*А самі свет калі пакінем,*
*і нас, магчыма, нехта ўспомніць.*

ПРОТЕСТ

## Николай ЗИМИН: «Отступать мы не намерены»

*Солигорский райисполком повторно отказался зарегистрировать первичную организацию Белорусского независимого профсоюза работников УСП «Трест «Реммонтажстрой». В ответ на это Совет представителей БНП принял решение о проведении в Солигорске протестного уличного шествия, а независимый профсоюз горняков ОАО «Беларуськалий» намерен поддержать членов независимого профсоюза треста «Реммонтажстрой» пикетом.*

Проведение пикета заявлено на 13 ноября.

– А на 16 ноября мы запланировали акцию «Уличное шествие», заявка в райисполком поступила 31 октября, – рассказал председатель БНП Николай Зимин. – «Уличное шествие» призвано выразить протест Белорусского независимого профсоюза против решения райисполкома не регистрировать нашу первичную организацию, против бюрократизма и волокиты, которые демонстрируют местные чиновники в этом вопросе. Уже второй раз чиновники в своем письменном отказе ссылаются на пункт 21, часть четвертую пункта 22 Инструкции о порядке оформления и рассмотрения документов, связанных с государственной регистрацией профессиональных союзов. А в ответ на обращения наших представителей с просьбой объяснить конкретно, что не устраивает в наших документах, снова отказываются отвечать.

**– Местная власть может не разрешить проведение пикета и митинга.**

– Но подать иск в суд райисполком нам запретить не может. Чиновники этот вариант оспаривания решения райисполкома нам предлагают в своем письменном ответе. Воспользуемся. Мы, кстати, уже готовим судебный иск.

Белорусский независимый профсоюз является членом Глобального союза industriAll, объединяющего 50 миллионов трудящихся, и IUF, в котором состоят 10 миллионов работников наемного труда. Как стало известно, не исключено, что БНП обратится к ним за поддержкой.

Напомним: свою первичную организацию более 400 членов независимого профсоюза, работающих в УСП «Трест «Реммонтажстрой», не могут зарегистрировать в Солигорском райисполкоме с мая этого года.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ДАРЭЧЫ

## Без афіцыйнай дэлегацыі Украіны...

У мінулым нумары «Народнай Волі» са спасылкай на ўкраінскія СМІ паведамлялася, што Беларусь ізноў наведае прэзідэнт Украіны **Пётр Парашэнка** – ён нібыта ўзначаліць украінскую дэлегацыю на сустрэчы Асноўнай групы Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы, якая 31 кастрычніка і 1 лістапада праходзіла ў сталіцы Беларусі.

Аднак сярод высокіх гасцей мерапрыемства ўкраінскага лідара не было. Чаму Пётр Парашэнка не прыехаў у Мінск?

За каментарыем мы звярнуліся да прэс-сакратара Амбасады Украіны ў Беларусі **Юрыя Траяна**. «*Такі візіт наогул не планаваўся, Пётр Аляксеевіч, як вядома, наведваў Гомель 26 кастрычніка,* – патлумачыў Павел Юр'евіч. – *Гэта фэйкавая навіна, не ведаю, навошта камусьці спатрэбілася яе распаўсюджваць*».

Дарэчы, у самой Украіне нідзе афіцыйна не анансаваўся візіт прэзідэнта краіны ў Мінск на пасяджэнне Асноўнай групы Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы. У адрозненне, напрыклад, ад навіны, што 1 лістапада ў Кіеве адбудзецца сустрэча Пятра Парашэнкі з канцлерам Германіі **Ангелай Меркель**. Гэтая інфармацыя на афіцыйным сайце прэзідэнта Украіны з'явілася яшчэ 30 кастрычніка.

Дарэчы, у Амбасадзе Украіны ў Беларусі «Народнай Волі» паведамілі, што сярод удзельнікаў мінскай сустрэчы Асноўнай групы Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы не было і афіцыйнай дэлегацыі Украіны. «*Магчыма, ад нашай краіны прысутнічалі незалежныя эксперты,* – заўважылі ў амбасадзе, – *але гэта не афіцыйныя прадстаўнікі Украіны*».

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПРОЕКТ

## Через месяц в Беларуси начнут транслировать украинский телеканал?

*Говорят, во время последней встречи в Гомеле президента Украины Петра Порошенко и Александра Лукашенко достигнута договоренность об открытии украинского телеканала в Беларуси.*

*«Народная Воля» поинтересовалась, когда начнется трансляция.*

Власти Украины не исключают, что телеканал иновещания UA TV может выйти на белорусский рынок после 1 декабря 2018 года.

Но все технические вопросы украинский телеканал должен будет решать уже напрямую с белорусскими кабельными операторами и дистрибьюторами, которые распространяют канал.

Иностранные телеканалы, желающие попасть в белорусское медиапространство, ищут здесь партнера – кабельного оператора (их у нас больше 140) или дистрибьютора. И уже они дальше обращаются в наше министерство с просьбой разрешить вещание нового канала, оформляется пакет документов, мы его рассматриваем и принимаем решение. Кабельные операторы и дистрибьюторы выступают посредниками, которые представляют интересы иностранных телеканалов.

Допустим, к нам недавно обратились казахи – они тоже хотели бы, чтобы в Беларуси вещал их телеканал. Сейчас они аналогичным образом будут вести переговоры с дистрибьюторами или кабельными операторами, решать технические вопросы, готовить пакет документов.

Кстати, белорусский канал «Беларусь 24» точно по такой же схеме заходил на украинский рынок. Сегодня у «Беларусь 24» больше миллиона абонентов, о нем хорошо отзываются.

Безусловно, это хорошо, что на наш рынок хотят прийти иностранные телеканалы. Но вообще-то нам необходимо думать о защите своего информационного пространства, развивать его, быть конкурентными. Это очень важно.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

### «Ждем протокола поручений...»

– Наш министр Александр Карлюкевич не присутствовал на встрече президентов, когда обсуждался вопрос о трансляции украинского телеканала, – *говорят в Министерстве информации.* – Поэтому мы ждем протокола поручений по итогам этой встречи, где нам четко будет сформулирована задача. В протоколе поручений, вероятно, будет дано указание Министерству информации обеспечить реализацию договоренностей.

**Марина КОКТЫШ.**

ТРАГЕДЫЯ

## Кіроўца загінуў, трое пасажыраў – у рэанімацыі

У наш час паведамленні ДАІ нагадваюць баявыя зводкі. Вось і ў ноч з 31 кастрычніка на 1 лістапада недалёка ад вёскі Ганчароўка Рэчыцкага раёна адбылася страшэнная аварыя – удар машыны аб дрэва быў такі моцны, што яна, як вы бачыце на здымку, развалілася на дзве палавіны. Кіроўца памёр на месцы здарэння, а трое пасажыраў – у рэанімацыі.



АКЦЫЯ

## Юрась БЕЛЕНЬКІ: «Запрашаем у Лошыцкі яр…»

*4 лістапада Кансерватыўна-Хрысціянская партыя – БНФ правядзе шэсце і мітынг.*

– Мерапрыемства санкцыянавана, дазвол на яго правядзенне мы ўжо атрымалі ад Мінгарвыканкама, – кажа намеснік старшыні партыі **Юрась Беленькі**. – Яно прымеркавана да Дня памяці продкаў "Дзяды", адзначэнне якіх яшчэ працягваецца.

**– Які фармат акцыі?**

– З 12.00 да 12.30 адбудзецца збор удзельнікаў на пляцоўцы ля будынка Мінскага гарадскога палаца культуры па вуліцы Маякоўскага, 129. З 12.30 да 13.00 – дэманстрацыя па тратуарах вуліцы Маякоўскага ад гэтага палаца да памятнага крыжа ў Лошыцкім яры. І з 13.00 да 15.00 – мітынг на пляцоўцы каля памятнага крыжа ў Лошыцкім яры – адным з месцаў пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Таму запрашаем усіх жадаючых…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ:

# «Амерыканскі бок сам прапанаваў сустрэцца…»

*Адзін з кіраўнікоў кампаніі "Гавары праўду!" расказаў "Народнай Волі" пра гутарку з памочнікам дзяржсакратара ЗША.*

Днямі падчас візіту ў Мінск дзяржсакратар ЗША Уэс Мітчэл сустрэўся ў тым ліку і з кіраўнікамі "Гавары праўду!" Таццянай Караткевіч і Андрэем Дзмітрыевым. Апошні распавёў, пра што ішла размова:

– Ініцыятыва сыходзіла ад амерыканскага боку. Сустрэча праходзіла ў Пасольстве ЗША ў Мінску, – кажа палітык. – Наколькі вядома, спадар Мітчэл прыехаў туды адразу пасля гутаркі з беларускім кіраўніком. Наш дыялог працягваўся каля паўгадзіны.

Паколькі Уэс Мітчэл у свой час быў добра знаёмы з "беларускім пытаннем", то, натуральна, яго цікавіла тое, якія змены апошнім часам адбываюцца ў краіне. Што змяняецца? Што застаецца на адным і тым жа месцы? Наколькі ёсць прастора для дзейнасці грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі? У якім стане грамадства?

**– І што вы распавялі спадару Мітчэлу?**

– Мы адзначылі, што, з аднаго боку, у Беларусі адбываюцца нейкія змены, але ў той жа час застаюцца і негатыўныя тэндэнцыі. Прывялі ў прыклад гучныя палітычныя крымінальныя справы, расказалі, як тым жа журналістам "Белсата" складана працаваць без акрэдытацыі. Дадалі, што на выбарах няма альтэрнатывы, а эканамічныя змены ўлады хочуць правесці без эканамічных рэформ. Акрамя таго, падтрымалі ідэю вяртання паслоў ЗША і Беларусі, каб павысіць узровень даверу. А ўвогуле, па выніках сустрэчы стала зразумела, што ў ЗША зараз новая ўсходняя палітыка. Калі два-тры гады таму Беларусь была для амерыканцаў "перыферыяй", то зараз можна казаць пра вяртанне ўсёй Усходняй Еўропы ў парадак дня Злучаных Штатаў. Беларусь – не выключэнне.

**– Падарункамі падчас сустрэчы абмяняліся?**

– Не, усё праходзіла на дастаткова афіцыйным узроўні.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗА РУЛЁМ

# Што будзе на трасе Гродна–Мінск пасля рэканструкцыі?

*Паводле падлікаў адмысловцаў, на ўчастку трасы М6 па Гродзенскай вобласці адлегласць паміж АЗС будзе складаць менш за 34 кіламетры, паміж пунктамі харчавання – 30 кіламетраў. Па гэтых паказчыках аўтадарога М6 Мінск–Гродна зраўняецца з трасай М1 на Міншчыне.*



Зараз на ўчастку трасы М6 на тэрыторыі Гродзенскай вобласці знаходзіцца 16 аўтазаправачных станцый, у тым ліку на трох з іх маюцца заправачныя комплексы для электрамабіляў. На трасе знаходзіцца 20 кавярняў і 16 аб'ектаў гандлю, 8 матэляў і гатэляў. У планах будаўніцтва яшчэ трох АЗС. Да шасці пляцовак адпачынку дададуцца яшчэ пяць. Дарэчы, працягласць трасы М6, якая рэканструюецца, – 150 кіламетраў, з якіх 120 праходзяць менавіта па Гродзенскай вобласці, каля 35 км дарогі рэканструюецца ў Мінскім рэгіёне.

Улады абяцаюць, што пасля рэканструкцыі аўтадарогі плануецца падрыхтаваць і запусціць мабільны дадатак, які стане дапаможнікам для турыстаў, каб арыентавацца ў існуючым сэрвісе.

Як вядома, рэканструкцыя трасы М6 пачалася ў 2015 годзе за кошт крэдыту Сусветнага банка. Агульная сума пазыкі склала 250 мільёнаў долараў. Былы прэм'ер-міністр Беларусі **Андрэй Кабякоў** абяцаў адкрыццё трасы прымеркаваць да 7 лістапада 2018 года, аднак пазней ён даручыў завяршыць рэканструкцыю М6 да II Еўрапейскіх гульняў. Нехта з гродзенцаў у "Фэйсбуку" пакінуў на гэты конт каментарый: *"Не паспелі да 7 лістапада, то варта зрабіць да 25 сакавіка".*

Тым часам польскія СМІ паведамілі, што на мінулым тыдні цалкам здадзена ў эксплуатацыю аўтастрада паміж Беластокам і Варшавай. Гэтая аўтастрада з'яўляецца лагічным працягам трасы М6.

Паводле паведамлення партала BialystokOnline, на большай частцы адрэстаўраванай дарогі дазволеная хуткасць складзе 120 км/г. З Беластока да Варшавы (крыху больш за 200 км) можна даехаць за дзве гадзіны. За апошнія тры гады было адрамантавана 98 кіламетраў трасы, якія злучаюць Беласток і Варшаву, і затрачана на гэта, паводле інфармацыі партала, 795 мільёнаў долараў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



# І прыходзяць Дзяды…

Трыццаць пяць гадоў таму Мінск пачаўся для мяне з… могілак. Настаўнік Пятро Марціноўскі, з бацькоўскай апекай даставіўшы мяне ў сталіцу для паступлення ў БДУ, адразу пасля прыёмнай камісіі павёў свайго агаломшанага вулічным тлумам вучня на зацішныя Вайсковыя могілкі. І там мы няспешна хадзілі, як па вялікай камунальнай кватэры, з візітамі – ад Паўлюка Труса да Алеся Гурло, ад Кузьмы Чорнага да Валянціна Таўлая, ад Янкі Купалы да Якуба Коласа…

*"Вайсковыя могілкі Мінска / не будуць варот зачыняць. / Спыніся, далёкі ці блізкі, – тут маршалы нацыі спяць…"* Пры кожнай магіле настаўнік чытаў з памяці вершы, расказваў пра пісьменнікаў гісторыі, якія не маглі трапіць у школьныя падручнікі. Тлумачыў, чаму Купала і Колас – маршалы нацыі. І гэта быў самы запамінальны ўрок літаратуры ў маім жыцці!

Даўно няма на свеце майго настаўніка. Далёка ляжыць – не заўсёды і даедзеш на Дзяды ці Радаўніцу. А вось на Вайсковых могілках я стараюся бываць часцей. Едзеш міма, прыпынішся – з усіх вуліц вароты, як і раней, не зачынены.

Вось і сёлета напярэдадні памінальных дзён зайшоў я ў браму нацыянальнага некропаля з боку Даўгабродскай. І – не пазнаў яго. Не, магіла першага прэзідэнта Акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага пры самай браме была на месцы. Але за ёй… Леваруч ад галоўнай алеі могілкі нагадвалі спілаваны лес. Замест старых помнікаў і агароджаў цьмяна паблісквалі пакладзеныя проста на зямлю стандартныя мармуровыя пні-шыльдачкі. Пад іміжой невыразныя надпісы на мокрым камені чыталіся з цяжкасцю, разбіраць іх даваўся ледзь не навобмацак.

І гэта называецца добраўпарадкаванне? Прычым прыкладна на трэці шыльдачак надпісаў не было зусім. Затое паблісквалі залатымі літарамі некрануты ўпарадкавальнікамі помнікі на магілах тэрарыста Івана Пуліхава, які ў 1906 годзе спрабаваў забіць мінскага губернатара Курлова, і "земпреда ГПУ Бел." (так напісана) Іосіфа Апанскага, што загінуў "от руки контрреволюции" ў 1927-м. У тым жа шэрагу бачна ці не самая наведваная, мяркуючы па жывых кветках, магіла амерыканкі Рут Уолер, супрацоўніцы дыпламатычнай місіі, якая памерла ў 1946 годзе. І як жа прыкра, што поруч з помнікам зроблены сметнік. Ну не знайшлося для яго больш прыдатнага месца…

Праваруч ад алеі старыя помнікі пакуль стаяць, але на агароджах развешаны паведамленні, што ў адпаведнасці з артыкулам 22 Закона РБ *"О погребении и похоронном деле"* недагледжаныя на працягу 2 гадоў магілы будуць таксама "добраўпарадкаваны". Дата на паведамленнях – 2015 год. Значыць, час прыйшоў. І хутка пойдзе пад знос трохі пахілены помнік "Язэпу Геранімавічу Васілеўскаму (1905–1929), дарагому таварышу па доўгай і пачэснай рабоце на працоўным фронце ад служачых друкарні БДВ". Наўрад ці здолее выстаяць перад упарадкавальнікамі помнік памерламу ў 1933-м Абрашу Ашэровічу, які нечакана для мяне апынуўся беларускім паэтам Алесем Ліпнёвым. Відаць, пойдзе на металалом каваны крыж на магіле Аляксея Кульгі (1930–1947). Ды і старэнькі помнік на магіле паэта і ўдзельніка штурму Зімовага палаца Алеся Гурло, відавочна, не будзе прызнаны гістарычнай каштоўнасцю. Не памесціцца на стандартнай шыльдачцы кранальная эпітафія Вацлаве Петрачэнка (1918–1947): "Ты жыла ў яго сэрцы, пакуль яно білася"…

Усе гэтыя пахаванні (і сотні іншых), хутчэй за ўсё, будуць знішчаны, а на іх месцы з'явяцца шыльдачкі-пянькі з нечытэльнымі прозвішчамі. І – нібыта ўсё па законе, з клопатам пра ўшанаванне памяці, як ва ўсім цывілізаваным свеце. Але такое "ўшанаванне" горш за знявагу. Я не магу сабе ўявіць, каб нешта падобнае чынілася, напрыклад, на кракаўскіх Ракавіцкіх могілках ці на маскоўскіх Ваганькаўскіх. А наша Вайсковыя па статусе – ніяк не ніжэйшыя. Ну, раз там "маршалы нацыі спяць"…

Адзін з маршалаў, Якуб Колас, напісаў два перадсмяротныя лісты ў ЦК КПБ: адзін – пра катастрафічны стан беларускай мовы, другі – пра занядбаныя могілкі, згадаўшы і пра забытыя магілы заслужаных беларусаў у свеце. Больш за паўстагоддзя з таго часу прайшло – "а воз і ныне там".

Гадоў дзесяць таму пазнаёміўся я з незвычайным чалавекам Георгіем Каржанеўскім. Інжынер-меліяратар з Валожына, ён меў дзіўнае хобі – штолета браў за свой кошт дадатковы адпачынак, ехаў у Рэспубліку Комі і зноў жа на свае ўласныя сродкі ўсталёўваў на месцах масавых пахаванняў беларусаў памятныя крыжы. Тыя месцы паказаў яму бацька, шматгадовы вязень ГУЛАГа. "І вось, – кажа, – я крыж хачу паставіць, а на той дзялянцы гарадская адміністрацыя дом спраектавала. Я ім пра брацкую магілу, а яны на мяне ваўкамі глядзяць..." Дайшло да таго, што Георгія Каржанеўскага невядомыя аднойчы скінулі з начнога цягніка пасярод тайгі.

А ў той жа Рэспубліцы Комі, у горадзе Інта, літоўская дзяржава пабудавала цэлы мемарыял. Тамсама адпаведным чынам ушанавала сваіх загінуўшых у ГУЛАГу грамадзян і Польшча. Чаму ж у беларускіх улад нават і думкі такой не ўзнікае – паставіць (на Калыме, у Нарыльску, у той жа Інце) сімвалічны помнік тым беларусам, што не вярнуліся з беласмертнай Поўначы? Хоць адзін на ўсіх – у памяць святароў Адама Станкевіча і Андрэя Цікоты, пісьменнікаў Максіма Гарэцкага і Вацлава Ластоўскага, дзеячаў БНР Антона Луцкевіча і Макара Краўцова, паэтаў Уладзіміра Хадыкі і Сяргея Дарожнага…

Бо прыходзяць Дзяды, і няма дзе запаліць зніча памяці. Ды і памяці нашай часам хапае на шыльдачку-пянёк на могілках і "добраўпарадкаванне", якое відавочна пераходзіць у вандалізм.

СОЛИДАРНОСТЬ

## Председатель Белорусского независимого профсоюза написал письмо премьер-министру Украины

*Он призывает Владимира Гройсмана пойти на уступки протестующим украинским шахтерам. Речь идет о рабочих шахты им.Капустина ПАО «Лисичанскуголь», которые объявили подземную забастовку и требуют выплатить долги по заработной плате.*

В своем письме Николай Зимин, в частности, написал: *«Господин премьер-министр, Белорусский Независимый профсоюз горняков, химиков, нефтепереработчиков, энергетиков, транспортников, строителей и других работников возмущен ситуацией, сложившейся на шахте имени Капустина ПАО «Лисичанскуголь» на Луганщине, где бастуют под землей десятки наших братьев и ваших граждан. … Складывается впечатление, что в сложное для вашей страны время в правительстве Украины не способны реально оценить данную ситуацию и принять все меры по обеспечению трудовых прав своих граждан, гарантированных украинским и международным законодательством.*

*Господин премьер-министр, от имени членов Белорусского независимого профсоюза призываем Вас посодействовать в выплатах задолженностей по заработной плате горнякам и разрешению возникшего конфликта».*

Как известно, 15 горняков бастуют в шахте на Луганщине на глубине более 500 метров. А вообще, реально ощутимые для людей задержки с выплатами зарплат коснулись в Украине тысяч горняков. Независимый профсоюз горняков Украины, говоря о размере этой задолженности, называет цифру – около 1 миллиарда гривен.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ФАКТ И КОММЕНТАРИЙ

# Названы десять главных задач правительства

*Их в парламенте перечислил премьер Сергей Румас.*

Это:
- – развитие бизнес-среды и создание комфортных условий ведения бизнеса,
- – опережающее развитие сферы услуг,
- – формирование ИТ-страны,
- – масштабная цифровизация всей экономики,
- – проведение эффективной бюджетно-финансовой и налоговой политики,
- – обеспечение устойчиво низкой инфляции,
- – эффективное управление госсобственностью,
- – активизация внешнеэкономической деятельности,
- – снижение межрегиональной дифференциации,
- – обеспечение достойного уровня жизни населения.

Также премьер-министр отметил, что правовая среда в стране должна стать для инвесторов *«гарантом работы на белорусском рынке»*. В этой связи глава правительства сообщил, что сейчас прорабатываются вопросы отмены уголовного преследования за нарушения в сфере налогового законодательства.

Кроме этого, добавил Румас, правительство будет стремиться развивать не только частный сектор, но и повышать эффективность сектора госпредприятий. *«Мы считаем, что нужно разработать закон о госсекторе с новой идеологией. Будут пересмотрены подходы к работе института представителей государства. Планируется сократить представителей государства* (в наблюдательных советах госпредприятий. – **БелаПАН**) *из числа госслужащих и замена их на профессиональных управляющих»*, – заявил премьер-министр.

## «Скорее концепция, а не инструмент деятельности»

Заместитель председателя Белорусской научно-промышленной ассоциации (БНПА) **Георгий Гриц** считает положительным аспектом, что *«в программу заложены те же цели, которые декларировались предыдущим правительством: повышение эффективности управления госсектором, диверсификация экспорта, разгосударствление, повышение благосостояния народа»*.

*«Но недоработка данного документа в том, что это скорее декларация, а не инструмент к реализации. Не названы источники финансирования, инструментарии»*, – отметил эксперт.

Георгий Гриц считает, что надо было сделать акцент на механизмах разгосударствления, которые ранее были предложены МВФ.

*«Формирование частного бизнеса и команды управленцев – длительный процесс, занимающий пять и более лет. Данная программа правительства скорее концепция, а не инструмент деятельности»*, – считает Гриц.

По поводу привлечения инвесторов и отмены уголовной ответственности бизнеса за налоговые правонарушения собеседник портала naviny.by подчеркнул: *«Классика экономики говорит о том, что в первую очередь надо создавать условия для отечественных инвесторов, следом придет как стратегический партнер и иностранный инвестор. Но сегодня основная масса предпринимателей занимается посредничеством, а необходимо создавать и развивать частное промышленное и инновационное предпринимательство»*.

Как отметил Гриц, зарубежный опыт показывает: одним из самых тяжких преступлений является уклонение от налогов.

*«Если мы огульно освободим бизнесменов от ответственности за налоговые преступления, то это неправильно. Надо четко провести черту между оптимизацией и уходом от налогов. Если доказано, что совершено преступление, то оно должно быть наказано по закону»*, – убежден эксперт.

АКТУАЛЬНО

# Кто из белорусов зарабатывает на жизнь в Литве

*Стоит ли официальному Минску опасаться либерализации миграционной политики в соседней стране?*

Типичному белорусскому мигранту в Литве в среднем 39 лет, он занимается перевозкой грузов и живет без семьи, рассказала директор Департамента миграции при Министерстве внутренних дел Литвы **Эвелина Гудзинскайте** на Первом общественном форуме Беларуси и Литвы «Что нас объединяет?», который прошел в Клайпеде.

Белорусы работают также на стройках соседней страны, в логистике и продажах. По словам директора Департамента миграции, представителей этих профессий Литва привлекает тем, что «это недалеко от родины и нет языкового барьера».

Около 1% белорусских мигрантов в Литве – высококвалифицированные работники. Чаще всего это «айтишники», которые сразу приезжают с семьями. У них хороший английский, поэтому жить они могут в любой стране, но выбирают Литву, поскольку, по словам Эвелины Гудзинскайте, «чувствуют себя здесь комфортно и уютно, как дома», а литовские граждане воспринимают белорусов скорее «не как мигрантов, а как своих людей».

В последнее время Литва испытывает сложные демографические проблемы. Когда в 1991 году страна вышла из состава СССР, в ней жили 3,7 млн человек. Сейчас население страны сократилось почти до 2,8 млн жителей. С момента присоединения Литвы к ЕС в 2004 году ее жители массово устремились в поисках работы в основном в Великобританию, Норвегию и Германию. По подсчетам некоторых социологов и демографов, к 2050 году в Литве останется лишь два миллиона жителей.

Вот почему миграционная политика Литвы в последние годы стала более либеральной.

*– Не хватает квалифицированных работников, поэтому была облегчена процедура получения статуса трудового мигранта. Разрешение на получение национальной визы, например, выдается в течение 15 дней, в более короткие сроки оформляется и вид на жительство. Все это облегчает миграционные процессы*, – подчеркивает Эвелина Гудзинскайте.

Белорусские мигранты в Литве третьи по количеству после украинцев и русских. Чаще всего они приезжают на год без семей, после чего стремятся получить вид на жительство. 79% из них проживают в Вильнюсе. Следующие по численности проживающих в Литве мигрантов из Беларуси – Клайпеда и приграничные территории.

*– Число белорусов в последние годы увеличивается, но оно может быть еще больше*, – считает Эвелина Гудзинскайте, отмечая, что «белорусам просто не хватает информации, например, как правильно подготовить документы».

По ее словам, около 19% денежных переводов из Литвы поступают в Беларусь.

*– Мигранты не только зарабатывают деньги, но и приобретают новые знания, возвращаясь на родину, привозят свой опыт в социальной сфере. Миграция обеим странам идет на пользу и может помочь сблизиться Литве и Беларуси*, – убеждена Эвелина Гудзинскайте.

(Zautra.by)

КРЫМІНАЛ

## Мацярынства пацверджана аналізам ДНК

*У Гродне затрымана жанчына, якую падазраюць у тым, што яна выкінула ў сметніцу немаўля*

Імя затрыманай пакуль не называецца. Вядома, што яна гродзенка і раней была судзіма. Зараз з ёй праводзяцца следчыя дзеянні для высвятлення матываў і мэт яе ўчынку. Яе мацярынства пацверджана вынікамі даследаванняў ДНК.

Нагадаем, што мёртвае немаўля знайшлі ў пакеце побач са сметніцай у жылым мікрараёне Гродна. Прычына смерці дзіцяці дагэтуль не называецца. Эксперты працягваюць праводзіць судова-медыцынскія экспертызы. Акрамя гэтага, плануецца правядзенне дактыласкапічных, біялагічных і генетычных даследаванняў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ЮБИЛЕЙНОЕ



# ОСТРЫЕ УГЛЫ БОРИСА КЛЕЙНА



Вчера, 1 ноября, исполнилось 90 лет белорусскому историку Борису Клейну. Человеку, вписавшему свою страницу в летопись сопротивления коммунистической власти, опубликовавшему много неизвестных фактов из истории Беларуси XIX–XX столетий.

Научная судьба Бориса Самуиловича была нелегкой. Он не скрывал своих оценок происходящего – как и его друзья Василь Быков и Алексей Карпюк. Три угла «гродненского треугольника», письмо о котором направил в аппарат ЦК КПСС всемогущий шеф КГБ Юрий Андропов. Они обратили на себя особое внимание в 1968 году, когда обсуждали – и осуждали – ввод советских войск в Чехословакию.

Но Клейн всегда был подозрителен. Дело было не только в национальности (и сегодня находятся в Беларуси те, кто сквозь зубы цедит: как, мол, еврей мог писать историю Беларуси?). Дело было и в его научных интересах. Борис Самуилович активно занимался исследованием белорусского революционного движения; он переписывался с вдовой Бронислава Тарашкевича Ниной Александровной, изучал деятельность запрещенной Сталиным Коммунистической партии Западной Беларуси, общался с чудом уцелевшими ее активистами. Занимался историей семьи Бонч-Осмоловских, архивом доктора Николая Судзиловского-Русселя; предками признанного гением, но все-таки нелюбимого властями Дмитрия Шостаковича. Это было опасно. Ну, и «разрешенные» темы вовсе не отличались особой лояльностью: Тадеуш Костюшко, семья повстанца Мигурского, бежавшая из Сибири. Да, против монархии, – но ведь и против России… Как писал Павел Коган:

*Я с детства не любил овал!*
*Я с детства угол рисовал.*

А угол – он острый, неудобный. Особенно в политике.

Да и в быту доцент Клейн казался опасным. В книге воспоминаний «Недосказанное», вышедшей в издательстве «Лимариус» в 2009 году, он описал сцену из школьного быта. 1968 год, в классе, где учится его старший сын Александр, проводится политинформация: «Классный руководитель с возмущением отозвалась о поведении чехословацких "ревизионистов", но зато похвалила действия наших войск, которые "вразумили" этих врагов социализма. Потом она обратилась к моему сыну:

– Твой папа ведь историк – пусть он к нам придет и все расскажет.

Несколько замявшись, сын все же ответил:

– А мой папа думает об этом иначе.

Учительница, надо полагать, высказала свое возмущение не только перед школьниками».

Надо полагать – не только. Не случайно в справке Гродненского горкома КПБ в 1971 году отмечалось: «В 1968 г. Клейн Б.С. выступил против предпринимаемых мер нашего правительства и ЦК КПСС по отношению к Чехословакии. […] Клейн называл руководство КПСС «группой выродков», которые доведут страну до катастрофы. Утверждал, что «массы недовольны политикой партии, что у нас в стране нет демократии, свободы […] Выборы в нашей стране это ширма для прикрытия кучки карьеристов. Формами борьбы считал, в частности, подготовку статей, книг, брошюр, отправку писем в ЦК, «подстрекал вовлекать в эту антипартийную деятельность население» […] В лекциях Клейн проводил свои враждебные взгляды и допускал «буржуазный объективизм». При этом парткомиссия особо отмечала отказ Клейна доносить на своих товарищей и единомышленников: «Нигде Клейн не расшифровывает, с кем конкретно вел антипартийные и антисоветские разговоры, кто разделял его взгляды». Последнее, по мнению властей, уж и вовсе ни в какие ворота не лезло.



Борис Клейн со студентами на раскопках.

С каждым из углов «гродненского треугольника» власть разбиралась по-своему. Быкову били стекла в окнах гродненской квартиры. Карпюка, бежавшего из гитлеровского концлагеря, геройски партизанившего в отряде имени Калиновского, травили как предателя, пытались исключить из партии. С Клейном обошлись и вовсе по-иезуитски: защищенную кандидатскую диссертацию и звание доцента аннулировали, самого лишили права преподавать и приняли на работу – помните фильм Эльдара Рязанова «Гараж»? – на овощную базу. И предупредили: больше никуда не возьмут.

Нужно было обладать невероятным упорством, чтобы продолжать отстаивать свои честь и достоинство профессионала и человека, убедить в своей правоте нового руководителя Гродненской области Леонида Клецкова, достучаться до самого Петра Машерова – и победить, не только восстановив прежние научные регалии, но и защитив докторскую диссертацию…

История этой борьбы блестящим пером историка и мемуариста описана в книге «Недосказанное». В тексте «Недосказанного» сказывается не только профессиональный опыт, но и несомненный литературный талант мемуариста. Клейн оставил яркие портреты уходящей, а вернее, уже ушедшей натуры – коммунистическо-партийной номенклатуры. Вот Григорий Филатович Фомичев, ехидно потирающий руки при мысли о возможности сломать человеческую судьбу, – его и прозывали-то «Пилатовичем». Вот Клецков – немногословный, умный, знающий цену строю, но тем не менее верно служащий ему. И – как вершина партийной пирамиды в республике – секретари ЦК КПБ Александр Кузьмин и Петр Машеров.

И главное – портреты друзей, согретые искренней и теплой любовью. Они действительно дополняют друг друга – Быков, Карпюк, Клейн. Сейчас есть возможность проверить искренность каждого из них: воспоминания изданы, и то, что один думал о другом, можно сопоставить с текстами каждого. И то, что, казалось, было по каким-то причинам недописано, недосказано одним, дописывается и досказывается другим. Вот почему название мемуарной части книги Бориса Клейна – «Недосказанное» – точно и неточно одновременно. Было – недосказано. Он досказал, дописал сагу о путешествиях по бесконечным запутанным старым гродненским улочкам троих друзей. Недосказано – если не учитывать, что и Быков, и Карпюк – тоже высказались. Но они – высказались и дописали… Все трое выполнили свой долг – человеческий, дружеский, авторский. Долг перед друзьями – и перед Историей.

Будь я кинорежиссером, снял бы фильм по трем мемуарным книгам. Рассказал бы историю трех друзей, которые дождались крушения империи. Здесь есть все для сериала – и возможность смены ракурса, и захватывающие сюжетные коллизии – от противостояния спецслужбам до вынужденной эмиграции. И три ярких образа в центре. Зачем следить за приключениями экипажа бандитского «бумера» или такой же «бригады»? Вот он – жизненный материал. Трое не сдавшихся, не сломанных, сильных. Смелых – причем не безрассудной смелостью молодости. Здесь мы видим людей, обремененных семьями, боящихся за близких, – и тем не менее продолжающих следовать своему жизненному предначертанию. Это ли не положительный пример для тех, кто пришел на смену поколению Быкова и Карпюка?

Но борьба продолжилась даже после того, как Борис Самуилович в 1992 году покинул Беларусь. Не столько его борьба, сколько борьба с ним. Намеченная на 27 марта 2009 года и объявленная презентация его книги была сорвана: за час до ее начала стало известно, что администрация учреждения, где должно было пройти мероприятие, отказало организаторам по указанию «свыше». Приют дал Белорусский ПЭН-центр. Затем, спустя некоторое время, книгу старого историка представили в городе Гродно: его ученики рассказывали о легендарном профессоре Клейне уже своим ученикам. Так продолжается его научно-педагогическая биография.

Десять лет назад, когда Борису Самуиловичу исполнилось только 80 лет, мы с Виталием Скалабаном обсуждали, как хорошо было бы доставить в Беларусь его огромный архив, с 1992 года находящийся в США. К сожалению, Виталий Владимирович ушел от нас, так и не реализовав эту идею на практике. Но, может быть, этот архив еще вернется на родину, как вернется и новая книга, которую Борис Клейн, как он сообщил мне в своем июньском письме, дописывает…

**Александр ФЕДУТА.**

**Фото из архива Бориса Клейна.**

SOS!

# Пад знакам вялікага арляца



Грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны" абвясціла птушку 2019 года. Гэта – вялікі арлец, адна з самых рэдкіх драпежных птушак Еўропы, якому пагражае глабальнае знікненне. Адна з найбольшых папуляцый арляца ў свеце гняздуецца ў Беларусі. 120–150 пар гэтых птушак жывуць у нашых лясах – гэта больш, чым ва ўсім Еўрасаюзе.

Нацыянальную кампанію "Птушка года" АПБ праводзіць з 2000 года, каб прыцягнуць увагу людзей да дзікіх птушак Беларусі, іх праблем і неабходнасці захавання тых месцаў, дзе яны жывуць. Увесь 2019 год будуць праходзіць мерапрыемствы, прысвечаныя вялікаму арляцу, да якіх змогуць далучыцца дарослыя і дзеці.

ДА ВЕДАМА

# Тысяча долараў за першае дзіця

У Беларусі з 1 лістапада вырасце памер дзіцячых дапамог і некаторых іншых сацыяльных выплат. Павышэнне адбываецца таму, што з 1 лістапада да 31 студзеня бюджэт пражытачнага мінімуму складзе 214,21 рубля – на 0,3 працэнта больш у параўнанні з нарматывам, які дзейнічаў з 1 жніўня па 30 кастрычніка. А да БПМ прывязаны сацыяльныя выплаты, у тым ліку дзярждапамогі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей. Найбольшай будзе выплата за нараджэнне другога і наступных дзяцей – 2998,94 рубля.

**Якімі будуць з 1 лістапада сацыяльныя выплаты?**

Аднаразовая дапамога пры нараджэнні першага дзіцяці – 2142,10 рубля.

Аднаразовая дапамога пры нараджэнні другога і наступных дзяцей – 2998,94 рубля.

Аднаразовая дапамога жанчынам, якія сталі на ўлік у арганізацыях аховы здароўя да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці, – 214,21 рубля.

Дапамога сем'ям на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 18 гадоў у перыяд выхавання дзіцяці ва ўзросце да трох гадоў (штомесячная) – 107,11 рубля.

Штомесячная дапамога сем'ям на дзяцей старэйшых за 3 гады з асобных катэгорый сем'яў, вызначаемых заканадаўствам:

– на дзіця-інваліда – 149,95,

– на іншых дзяцей у сям'і –107,11 рубля.

Штомесячная дапамога па доглядзе дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 18 гадоў:

– 214,21 рубля (з I і II ступенню страты здароўя і з III і IV ступенню страты здароўя да спаўнення дзіцяці ўзросту 3 гадоў),

– 257,05 рубля (з III і IV ступенню страты здароўя пасля спаўнення дзіцяці ўзросту 3 гадоў).

Штомесячная дапамога на дзіця ва ўзросце да 18 гадоў, інфіцыраванае ВІЧ, – 149,95 рубля.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СУД ДА ДЕЛО

# Год лишения свободы условно и 3,6 тысячи злотых штрафа

***В польском городе Зембрув прошел суд над белорусским дальнобойщиком, насмерть сбившим на скоростной трассе S8 двух польских водителей, которые дрались на проезжей части. Мужчина свою вину признал. О том, какое наказание понес водитель, рассказывает портал poranny.pl.***



Напомним, авария произошла 9 февраля этого года вблизи города Кшево-Старе (Подляское воеводство).

Два водителя не поделили дорогу, произошло незначительное столкновение автомобилей. После этого они остановились на скоростной трассе и стали драться. Когда мужчины оказались на проезжей части дороги, их сбила фура, которой управлял гражданин Беларуси. От полученных травм 29-летний житель Кракова и 40-летний житель города Зембрув умерли на месте происшествия.

По факту аварии долго проводилось расследование. По словам следователей, водитель фуры не нарушал ПДД и не имел шансов избежать наезда. Мужчина был обвинен в непреднамеренном опасном ДТП и в том, что он не проявил должной осторожности на дороге. Сначала белорус был задержан, а потом его отпустили под залог в 4000 злотых (около 1200 долларов).

Как рассказывают AUTO.TUT.BY в прокуратуре города Зембрув, летом этого года дело было направлено на рассмотрение в суд. Обвинители просили наказать белорусского водителя годом лишения свободы и штрафом в размере 3,6 тыс. злотых (около 2 тыс. белорусских рублей). Однако родственники погибших с таким наказанием не согласились, и дело вернулось на доработку в прокуратуру. В сентябре его снова направили в суд.

В этот раз судья вынес приговор. 19 октября Вячеслава М. приговорили к году лишения свободы условно и штрафу в 3,6 тысячи злотых, также водитель должен раз в полгода в течение трех лет письменно информировать суд о своей жизни.

Водитель согласился с обвинением, полностью признал свою вину, но во время судебного слушания подчеркнул, что в любом случае не смог бы избежать этой аварии.

Кстати, AUTO.TUT.BY выяснил, что белорусский водитель работает на одну из российских фирм, входящих в известную группу компаний. Мужчине наняли адвоката и всячески поддерживали, пока шло следствие.

Со слов сотрудника фирмы, белорус ехал по скоростной трассе за другим автомобилем, когда тот резко вывернул влево, видимо, из-за того, что заметил препятствие на дороге в виде двух дерущихся людей. Водитель фуры просто не имел возможности среагировать и сбил этих мужчин.

АФІЦЫЙНА

# Не больш як на 5 долараў

Так у 2019 годзе вырастуць тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, паведаміў намеснік прэм'ер-міністра **Уладзімір Кухараў**.

*"У адпаведнасці з даручэннем кіраўніка дзяржавы мы разлік праводзім у рамках павелічэння не больш як на 5 долараў на тарыфах. Сёння гэта работа практычна завершана, можна з упэўненасцю сказаць, што тарыфы будуць павышаны не больш як на 5 долараў"*, – цытуе БЕЛТА Уладзіміра Кухарава.

Праект дакумента, які ўстановіць тарыфы на 2019 год, планавецца падрыхтаваць да сярэдзіны лістапада. Мясцовыя органы ўлады прадставілі планавакалькуляцыйныя цэны на жыллёва-камунальныя паслугі, гэта інфармацыя абагульнена Мінжылкамгасам і перададзена ў Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. Паралельна Міністэрства энергетыкі праводзіць работу па разліку паліўных балансаў.

РЭГІЁН

# У Гродне адкрыюць кітайскі гандлёва-выставачны цэнтр

Ён размесціцца ў памяшканні плошчай больш за 430 квадратных метраў на вуліцы Горкага. Ужо зараз там усталёўваюць вітрыны і стэлажы. У хуткім часе будуць завезены і тавары: традыцыйныя гатункі гарбаты, сухафрукты, некаторыя віды раслін, будаўнічыя інструменты і іншае.

Першапачаткова тут будзе дзейнічаць пастаянная выстаўка вытворцаў з правінцыі Ганьсу. У далейшым плануецца, што яна стане гандлёва-выставачным цэнтрам з заказам тавараў праз інтэрнэт.

Тры гады таму Гродна стаў пабрацімам кітайскага горада Лунань з правінцыі Ганьсу. У межах падпісаных дамоваў аб супрацоўніцтве ў Гродне ўжо некалькі гадоў працуе цэнтр традыцыйнай кітайскай медыцыны.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

